

На жніўным полі.



На сялянскіх палях роўныя рады скошанага збожжа.

фота: У. Паўлючук


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (703) 17 ЖНІЎНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПЕРШАЯ НАРАДА

У канцы ліпеня пад кіраўніцтвам новага сакратара Галоўнага праўлення Янкі Зенюка адбылася першая нарада інструктараў, эстрады «Лявоніха» і працаўнікоў ГП.* Сакратар паінфармаваў усіх аб пастанове прэзідыума ГП адносна арганізацыйнага забеспячэння рэалізацыі пастаноў і прапаноў, прынятых на VI-ым з'ездзе БГКТ і справаздаўча-выбарчых канферэнцыях у аддзелах. Пасля Янка Зенюк пазнаёміў прысутных з вынікамі кантролю статутовай дзейнасці БГКТ, праведзенай працаўнікамі Найвышэйшай ізбы кантролю. Выяўленыя недахопы ў працы аддзелаў і ГП шырока абмяркоўваліся ўдзельнікамі нарады. Таварыш Зенюк асаблівую ўвагу звярнуў на рост нашай арганізацыі, на аплочванне членскіх складчын і на развіццё аматарскага руху з беларускім рэпертуарам. Далей сакратар ГП паінфармаваў аб папярэдніх двух пасяджэннях прэзідыума ГП і аб падзеле абавязкаў сярод яго членаў.

Бухгалтар ГП Галена Мялешка прадставіла бюджэт БГКТ на будучы, 1970 год. Акрэсліваецца ён сумай двух мільёнаў злотых. Бюджэт гэты зроблены з улікам грашовых патрэб усіх аддзелаў.

### СУСТРЭЧА З САКРАТАРАМІ

8 жніўня ў вёсцы Лука адбылася сустрэча прэзідыума Гайнаўскага аддзела беларускага таварыства з сакратарамі павятовага камітэта ПАРП таварышамі Аляксеем Лазоўскім і Мікалаем Самоцюкам. На спатканні, якое праходзіла ў вельмі сардэчнай і цёплай атмасферы, абмяркоўвалася праца БГКТ на Гайнаўшчыне, яе паляпшэнне, супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі.

### «ЛЯВОНІХА» НА ЖЭШОЎШЧЫНЕ

Эстрада ГП «Лявоніха» ў ліпені была ў водпуску, а ў жніўні ўвесь месяц выступае з канцэртамі ў Жэшоўскім ваяводстве. Да гэтага турнэ яна доўга рыхтавалася і ўвяла ў сваю праграму некаторыя новыя нумары.

### КАЛЯНДАР НА 1970 ГОД.

Беларускі каляндар на 1970 г. (галоўны рэдактар Мікалай Гайдук) ужо падрыхтаваны да друку і здадзены ў друкарню. У ім між іншым знаходзіцца шмат песень. Аўтарам вершаў з'яўляецца Віктар Швед, а Эдуард Гойлік напісаў да іх музыку.

(мс)



Жніво зараз адбываецца пры дапамозе машын.

## ПАСТАНОВЫ ПАРТЫІ Ў РЭАЛІЗАЦЫІ

Працэс перабудовы нашай гаспадаркі паводле сучасных, больш адпаведных для гаспадарча развітай краіны метадаў пачаўся даволі даўно. Запачаткавалі яго яшчэ пастановы IV з'езда партыі. З цэлай рашучасцю аднак справа гэтая пастаўлена была на V з'ездзе партыі, а канцэпцыю практычных шляхоў пераходу нашай гаспадаркі да больш сучасных, інтэнсіўных метадаў выпрацаваў у гэтым годзе II пленум партыі. Пастановы гэтыя вызначаюць нашай краіне шлях гэтак званага селектыўнага развіцця, гэта значыць, хуткага развіцця некаторых найбольш рэнтабельных галін гаспадаркі з устрыманнем развіцця менш рэнтабельных і ліквідацыяй тых, без якіх можна абысціся, а якія прыносяць гаспадарцы страты.

Новыя метады гаспадаравання патрабуюць таксама новых метадаў планавання, уключэння ў працу над планамі ўсіх рабочых калектываў, пераадоленне праяў бюракратычнага падыходу ў кіраванні гаспадаркай, выкарыстанне ўсіх магчымых рэзерваў гаспадарчага развіцця. Нягледзячы на перыяд летніх водпускаў, ва ўсёй краіне адбываецца зараз гарачая падрыхтоўка да замены метадаў кіравання ўсёй нашай гаспадаркай больш сучаснымі, новымі і да ўласцівага апрацавання новага гаспадарчага плана на 1971—1975 г. Актывізацыя гаспадарчага апарату і апарату кіравання гаспадаркай не мінула і Гайнаўкі.

Партыйныя ўлады і гаспадарчае кіраўніцтва Гайнаўкі правялі ва ўсіх прадпрыемствах сходы актыву, на якіх пазнаёмлена прысутных з сэнсам пастаноў II пленума партыі. Ва ўсіх прадпрыемствах адбыліся таксама адкрытыя партыйныя сходы, на якіх былі азнаёмлены рабочыя калектывы прадпрыемстваў з праблематыкай II пленума і праведзены дыскусіі над яе рэалізацыяй. Кіраўніцтвы паасобных прадпрыемстваў прааналізавалі існуючы стан прадукцыйнай моцы і апрацавалі планы рэалізацыі пастаноў II пленума ў сваіх прадпрыемствах. 9 мая адбылося пленарнае пасяджэнне Павятовага камітэта партыі, на якім былі перааналізаваны ўсе цяжкасці і недахопы ў рэалізацыі пастаноў партыі і прыняты адпаведныя рашэнні.

Новы метад падрыхтоўкі гаспадарчага плана, у якой павінны прыняць удзел усе рабочыя, сустракаецца з незразуменнем як з боку кіраўніцтва прадпрыемстваў, так і з боку саміх рабочых. Рабочых дагэтуль ніхто не пытаў у справах гаспадарчай палітыкі іх прадпрыемства. Таму, як сцвярджае дырэктар Гайнаўскага прадпрыемства драўнінай прамысловасці тав. Зін, дыскусія на розных аддзяленнях была розная. Рабочыя часта заяўлялі, што

Працяг на стар.4

## БЕЛАСТОЦКІ ПРАФСАЮЗНЫ...

Беластоцкі клуб прафсаюзаў існуе ад 1960 г. Сваёй дзейнасцю абымае ён усе прафесіянальныя групы насельніцтва горада Беластока. З'яўляецца клубам, адкрытым для ўсіх. Эканамічныя, дэмаграфічныя і культурныя змены горада Беластока на працягу 25-годдзя спрыялі ўзнікненню вялікагарадскога грамадства. У яго фармаванні важыліся часта баласты лакальных культурных традыцый і навыкаў.

Насельніцтва Беластока характэрна тым, што з'яўляецца шматнацыянальным, што крыжуюцца тут узоры некалькіх культур, асабліва — польскай і беларускай.

Праграму дзейнасці беластоцкага клуба прафсаюзаў вызначаюць задачы, якія служаць інтэграцыі ўсіх прафесіянальных груп горада. Рэалізаванню гэтых задач служаць усе галіны дзейнасці клуба:

— асветная дзейнасць: даклады па розных галінах навукі і жыцця, сустрэчы з цікавымі людзьмі, цыкл рэлігіязнаўчых ведаў, мастацкія выстаўкі і г.д.,

— мастацкія канцэрты і спектаклі,

— праца з фільмам,

— праца гурткоў самадзейнасці,

— праца з дзяцьмі,

— тэматычныя конкурсы, спатканні і вечарыны,

— танцавальныя вечарыны для моладзі і дарослых.

Апрача гэтага, клуб дапамагае ў дзейнасці Ваяводскай сцэне аматара, якую вядзе Ваяводскае праўленне прафсаюзаў. Даклады і спатканні вядуць спецыялісты варшаўскіх і беластоцкіх навучальных устаноў, выдатныя палітычныя і грамадскія дзеячы. Перад V з'ездам ПАРП, у жніўні 1968 г. была арганізавана «Грамадская Трыбуна Моладзі». Дала яна магчымасць свабоднай дыскусіі маладым людзям — працаўнікам, вучням і студэнтам — на найбольш хвалюючыя іх нялёгкія тэмы. Педагогі, псіхолагі, рэдактары, грамадскія і палітычныя дзеячы дапамагаюць маладым людзям знайсці адказы на хвалюючыя іх пытанні. Са сваёй «Трыбуны» маладыя людзі гаварылі пра патрыятызм, становішча моладзі ў справах працы, адпачынку, сямейнага жыцця, моды, грамадскага парадку, канфліктаў са старэйшым пакаленнем.

З пачаткам 1969 года ў сувязі з 25-годдзем сацыялістычнай Польшчы ў праграме «Трыбуны» знайшліся тэмы, якія знаёмяць моладзь з барацьбой польскага народа ў гады II сусветнай вайны і працай на працягу пасляваеннага 25-годдзя. У гэтым цыкле арганізуюцца спатканні з удзельнікамі барацьбы на розных франтах барацьбы. Цікавым цыклам у галіне асветнай дзейнасці з'яўляецца таксама «Клуб жанчыны», арганізаваны ў супрацоўніцтве з гарадскім аддзелам Лігі жанчын у 1967 годзе. У праграме яго дзейнасці былі такія праблемы, як справа выхавання дзяцей, новая роля жанчыны ў прафесіянальнай працы і ў сям'і, справа здароўя і ўдзелу жанчыны ў грамадскім жыцці.

На першым плане мастацкай дзейнасці ставяцца тэмы, якія паглыбляюць актыўнасць слухача. З вялікім усхваляваннем прымалі слухачы такія манадрамы, як «Пісьмы Ван Гога да брата Тэо» ў выкананні Е. Казакевіча — акцёра варшаўскага Класічнага тэатра, «Жыццё» Э. Брыля — у выкананні Зофіі Рысюўны, « Смерць на пабярэжжы

Працяг на стар.4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### УРАД М. РУМОРА

Палітычны крызіс у Італіі, які працягваўся больш месяца, фармальна закончыўся. Мар'ян Румор стварыў аднапартыйны меншасны ўрад хрысціянскай дэмакратыі. Фармальнае завяршэнне італьянскага палітычнага крызісу не азначае фактычнага яго заканчэння. Крызіс працягваецца, а стварэнне хадэцкага кабінета Румора з'яўляецца толькі манеўрам рэакцыйных сіл краін, якія такім чынам імкнуцца не дапусціць да ўзнікнення дэмакратычнага ўраду, якога патрабуюць шырокія колы людзей працы.

### ДЭВАЛЮАЦЫЯ

8 жніўня французскі ўрад на сваім надзвычайным пасяджэнні прыняў пастанову ў справе зніжэння вартасці франка на 12,5 працэнта. Рашэнне французскага ўрада было нечаканасцю і выклікала гвалтоўную рэакцыю ў заходніх краінах.

### ПАВЕЛ VI

Папа Павел VI пабываў ва Угандзе, дзе прыняў удзел у канферэнцыі афрыканскіх епіскапаў. Быў гэта першы візіт папы на афрыканскім кантыненце. Папа асудзіў усялякія збройныя канфлікты ў Афрыцы і праявы расавай дыскрымінацыі, а таксама прабаваў давесці да паразумення паміж федэратыўным урадам Нігерыі і Бяфрай. Сцвердзіў ён, што касцёл не мае намеру накідаць афрыканскім народам г.зв. заходняй культуры за кошт «добрых і чалавечых рысаў афрыканскай культуры».

### ФЕСТЫВАЛЬ

У час Фестывалю афрыканскай культуры, які адбыўся ў Алжыры, былі прыняты «Маніфест афрыканскай культуры». Маніфест асуджае каланіялізм і неакаланіялізм, а таксама сцвярджае, што «культура з'яўляецца творам народу, а не пануючага класа». Дакумент падтрымлівае развіццё нацыянальных афрыканскіх моваў. Прапануе ён таксама, каб кіраўнікі паасобных афрыканскіх урадаў прынялі адпаведныя крокі дзеля «звароту шэдэўраў мастацтва і дакументаў, захопленых каланізатарамі».

### Х З'ЕЗД

У Бухарэсце адбыўся Х з'езд Румынскай камуністычнай партыі. На з'ездзе была перадыскутавана справаздача Цэнтральнага Камітэта аб дзейнасці паміж з'ездамі, прыняты пастановы адносна гаспадарчага плана на 1971—1975 гады і выбраны новыя ўлады партыі.

### КУЗНЯЦОЎ

Як падае «Литературная газета», 31 ліпеня Саюз савецкіх пісьменнікаў скрэсліў Анатоля Кузняцова са спіску сваіх членаў «за здраду айчыны, здраду сацыялізма і палітычную і маральную крывадушнасць». Кузняцоў застаўся ў Англіі, куды паехаў на сродкі Саюза савецкіх пісьменнікаў пад прыкрыццём збірання матэрыялаў да кніжкі пра Леніна. Кузняцоў забавязаны быў прадставіць гэтыя матэрыялы часопісу «Юность». (п)



## БССР

### ДЫПЛАМАТЫЧНАГА

Адбылася паездка ў Беларусь вялікай групы надзвычайных і паўнамоцных паслоў, часовых паверaных у справах і дарадчыкаў пасольстваў многіх дзяржаў. На працягу трох дзён госці знаёміліся з жыццём беларускага народа, яго прагрэсам у эканамічным і культурным жыцці.

Члены дыпламатычнага корпуса наведалі Брэсцкую крэпасць-герой. Дыпламаты пабывалі таксама на Мінскім трактарным заводзе, у Інстытуце фізікі Акадэміі навук БССР і іншых установах.

Дыпламат Марока сказаў у час наведання трактарнага завода:

— У ліку дзесяткаў краін, якія купляюць трактары «Беларусь», знаходзіцца і Марока. Папулярнасць у нашай краіне гэтых машын настолькі вялікая, што ўрад вырашыў у два разы павялічыць іх закупку.

Урад Беларускай ССР наладзіў прыём у гонар высокіх гасцей.

### ПОЛЬШЧУ

Мінскі завод аўтаматычных ліній адправіў у Польшчу два агрэгатныя станкі, прызначаныя для вырабу дэталей транспартнага машынабудавання. Адначасова спецыяльнае канструктарскае бюро аўтаматычных ліній перадало работнікам вытворчасці рабочыя чарцяжы на выраб першых станкоў з комплексу абсталявання, якое праектуецца па заказу польскіх маторабудаўнікоў з Новай Дэмбы.

### КАНСТРУКЦЫЙ

Цэх па вытворчасці аглапарытасілікатавых сцекавых панеляў прыняла дзяржаўная камісія на Мінскім камбінаце буйнаблочных будаўнічых канструкцый. Гэта канструкцыі з «лёгкага» бетону.

### ВЕТЭРЫНАРНЫМ

У віцебскім ветэрынарным інстытуце адбыўся чарговы выпуск ветэрынарных лекараў. Дыпломы ўручае 209 маладым спецыялістам, якія выедуць на працу ў раёны Беларусі, Расіі і Казахстана.

### ГРУПА

На працягу дзесяці дзён у Беларусі знаходзілася прапагандавая група Цэнтральнага Камітэта КП Савецкага Саюза. Знаходжанне групы было звязана з патрэбай дапамогі ў прапагандзе і растлумачэнні дакументаў ды матэрыялаў міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый у Маскве.

### РАКАВЫХ

Дасягненням і набытаму вопыту ў прафілактыцы і лячэнні ракавых захворванняў было прысвечана пасяджэнне выязной сесіі праўлення навуковага таварыства анколагаў БССР, што адбылося ў Брэсце. У сесіі прынялі ўдзел хірургі, галоўныя лекары лячэбных устаноў, вучоныя — анколагі. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ПАЖАРЫ

Цёплае, сухое надвор'е выклікала ва ўсёй краіне небывалую хвалю пажараў. Занатавана ўжо ў гэтым годзе каля 16 тысяч пажараў, з чаго звыш 12 тысяч — у сялянскіх гаспадарках і звыш 2500 — у лясах. Пажары знішчылі ўжо звыш 6500 гектараў лясоў, гэта значыць, у чатыры разы больш, чымсьці за цэлы мінулы год.

У сувязі з гэтым, прэзэс Рады Міністраў выдаў распараджэнне ў справе ўзмацнення супрацьпажарнай абароны. Распараджэнне накладвае на прэзідыумы рад народовых абавязак неадкладнага правядзення аналізаў стану супрацьпажарнай бяспекі і ўвядзенне ў жыццё крокаў, мэтай якіх будзе яе ўзмацненне. Прэзідыумы ваяводскіх і паятовых радаў народовых створаць спецыяльныя калектывы, заданнем якіх будзе кіраванне супрацьпажарнымі акцыямі. На тэрыторыі, дзе асабліва вялікая небяспека пажараў, цэлыя суткі працаваць будзе супрацьпажарная служба, якая будзе складацца з вясковага насельніцтва. Завострыцца таксама кантроль выканання супрацьпажарных распараджэнняў, асабліва з боку арганізатараў і ўдзельнікаў летніх лагераў, размешчаных у лясах або непадалёк ад збожжа.

Як вынікае з дадзеных Галоўнага праўлення пажарных каманд, у месяцы ліпені ў час пажараў загінула трагічнай смерцю 11 асоб, у тым ліку трое дзяцей.

### ШАНЦ

Кандыдатам у вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія здалі экзамены, але з недахопу месц не маглі быць прынятыя, створаны новы шанц распачаць вучобу. Некаторыя вышэйшыя навучальныя ўстановы правядуць другі, папаўняючы набор. У галоўнай меры датычыць гэта будзе школ і ўніверсітэцкіх напрамкаў — матэматыкі, фізікі, хіміі, класічнай філалогіі і астраноміі.

### ЦЭМЕНТ

Польшча знаходзіцца на чале краін свету па прадукцыі цэменту. У 1946 годзе прадукавалася ўсяго 276 тысяч тон цэменту, а зараз прадукуецца яго звыш 10 мільёнаў тон. Экспарт за мяжу перакрочвае 2 мільёны тон цэменту ў год.

### 20 000 ГАДОЎ ТАМУ НАЗАД

Пры археалагічных раскопках у Кракаве адкрыта стаянка паляўнічых на мамантаў з часоў каля 20 тысяч год таму назад. З'яўляецца яна трэцім такога роду адкрыццём у Еўропе. Вучоныя знайшлі там, побач са знойдзенымі ўпершыню ў краіне касцьмі мамантаў, таксама касцяныя вастрыі коп'яў і косці мядзведзяў. Адкапаны таксама 2 шалашы дыяметрам каля 4 метраў і вышынёю каля 2 метраў. Каркас шалашоў зроблены быў з касцей мамантаў. Сведчаць яны аб тым, што пячоры не былі ўжо тады адзіным сховішчам чалавека. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### СВЯТА ЎРАДЖАЮ

Ваяводскія дажынкавыя ўрачыстасці адбудуцца ў Беластоку 31 жніўня г.г. Будзе гэта вялікае і радаснае народнае свята ўраджаю. Апрача афіцыйнай часткі, у час якой будзе падведзена ацэнка змагання сялян за высокі ўраджай, прадбачваюцца шматлікія гульні і іншыя культурныя мерапрыемствы.

Падрыхтоўкай свята ўраджаю займаецца 50-асабовы Ваяводскі дажынкавы камітэт. Узначальвае яго член ЦК ПАРП І сакратар Ваяводскага камітэта, пасол у Сейм А. Лашэвіч. У склад камітэта ўваходзяць прадстаўнікі іншых палітычных партый і грамадскіх сельскагаспадарчых і маладзёжных арганізацый.

### ГІСТОРЫЯ ПАВЕТА

Таварыства прыхільнікаў Граеўскай зямлі, якое дзейнічае ўжо некалькі год, апрацавала і выдала грамадскім чынам невялікую кніжку, прысвечаную пасляваеннай гісторыі свайго павета. Кніжка прыносіць шмат змястоўнага і цікавага матэрыялу. Варта, каб на прыкладзе граеўскага таварыства пайшлі прыхільнікі і жыхары іншых раёнаў, напрыклад, Бельшчыны ці Гайнаўшчыны. Бурлівыя пасляваенныя падзеі і пазнейшыя пераўтварэнні, якія здзейсніліся ў гэтых раёнах, усё яшчэ чакаюць свайго гісторыка.

### ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

Сельскагаспадарчая служба супольна з арганізатарамі вясковага гандлю ўстанавіла, што да 15 верасня г.г. сяляне Беластоцкага ваяводства павінны пад асенныя пасевы купіць 10% гадавой нормы азотных угнаенняў і па 40% гадавой нормы фосфарных і калійных (потасавых) угнаенняў.

Продаж штучных угнаенняў у Беластоцкім ваяводстве пачаўся 1 ліпеня г.г. На жаль, дагэтуляшнія пакупкі не настройваюць аптымістычна. На працягу ліпеня было продана ледзь няцэлых 3 працэнты гадавой нормы. Прыпамінаем, што ў месяцы жніўні штучныя ўгнаенні прадаюцца танней на 15 працэнтаў ад нармальнай цаны.

### З БЕЛАСТОКА Ў ЗША

Беластоцкая фабрыка жалезных прылад («ухвыты») шмат сваіх вырабаў высылае ў ЗША. Вартасць дастаўленых амерыканскім фірмам прылад ацэньваецца на 1 мільён 250 тысяч долараў.

### ПАЖАРЫ

Як нас інфармуе ваяводская камендатура супрацьпажарніцкай аховы, у мінулым тыдні на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства здарылася амаль 100 пажараў. Асабліва грозны пажар узнік 8 жніўня г.г. у вёсцы Ліпеньскае, Граеўскага павета. 11-гадовая дзяўчынка, пакінутая без апекі, завяла на бацькоўскім панадворку гульню з запалкамі. Ад гэтага загарэліся будынкі. Затым агонь перакінуўся на дамы суседзяў. Разам згарэла 36 жылых і гаспадарчых будынкаў. Страты аблічаны амаль на паўтара мільёна злотых. Вось цана лёгкадумнасці!

Болей прадбачлівыя гаспадары на перыяд лета наладжваюць ў сваіх вёсках сезонныя дзяцінцы.




**NIEDZIELA 17.VIII.**

9.20 Program dnia; 9.30 „Stary ratusz w Tallinie"; 10.00 „Przypominamy, radzimy"; 10.20 „Podwójny nelson" — film TVP („Stawka większa niż życie"); 11.20 „Melodie na dzień dobry"; 11.45 „Noc w sklepie zoologicznym" — film USA; 12.00 Dziennik TV; 12.15 Przerwa; 13.20 Program dnia; 13.25 „Ojciec i syn" — film; 13.55 „Przemiany"; 14.25 „Garaż dziadka Andrysza" — film fab. czechosł.; 15.35 „Portrety"; 16.25 „Kapitan kapitanów" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 16.50 „Śpiewa Rita Hovink" — recital piosenkarki holenderskiej; 17.20 „Klub Sześciu Kontynentów"; 18.00 Mistrzostwa Polski w lekkoatletyce; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 19.55 „Fatalna historia" — film fab. franc.; 20.50 PKF; 21.00 „Jazz Jamboree 68" — rep. film. z XI Międzynarodowego Festiwalu Jazzowego; 21.30 „Klub prof. Tutki" — film TVP; 21.45 Magazyn Sportowy; 22.15 Kronika Mistrzostw Świata w kolarstwie (Brno).

**PONIEDZIAŁEK 18.VIII.**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 „Czystość to zdrowie" — film („Opowieści ze świata zwierząt"); 17.25 „Echo stadionu" — mag. sportowy; 17.45 „Kosmodrom rok 1999" — film czechosł. animowany; 18.00 „Kwiaty na hałdach"; 18.25 „Rodin" — film dok. francuski; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Teatr TV: M. de Ghelderode — „Klub kłamców"; 21.10 „Witajcie w Płocku" — rep. („Profile kultury"); 21.45 „Twarzą w twarz" — film TVP; 22.10 Dziennik TV.

**WTOREK 19.VIII.**

10.00 „Zaufaj mi Anno" — film fab. bułg.; 11.20 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 „Barwa i kształt przyrody" — film rum.; 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 19.50 „Zaufaj mi Anno" — film fab. bułg.; 21.10 „Poligon"; 21.40 Nowela filmowa; 22.10 Dziennik TV.

**ŚRODA 20.VIII.**

10.00 „Droga, która prowadzi do nikąd" — film („Ścigany"); 10.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 „Teleferie"; 18.25 Magazyn ITP; 18.35 TV Kurier Warszawski; 18.50 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 19.50 „Droga, która prowadzi do nikąd" — film („Ścigany"); 20.40 „Światowid"; 21.10 PKF; 21.20 „Warszawska Jesień" — program muzyczny; 21.55 Dziennik TV; 22.15 Wiadomości sportowe i Kronika Mistrzostw Świata (Brno).

**CZWARTEK 21.VIII.**

16.30 Program dnia; 16.35 Dziennik TV; 16.45 „Z drugiej strony szklanego ekranu"; 17.05 TV Kurier Białostocki; 17.30 „Centrum" — rep. („Spacery Warszawskie"); 18.00 „Historia z nagim chłopcem" — film fab. czechosł.; 18.30 Program o wymianie handlowej (Budapeszt); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 19.50 „Przypominamy, radzimy"; 19.55 „Rozmowa o książkach"; 20.15 IX Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. „Piosenka nie zna granic"; w przerwie ok. 21.25 Dziennik TV.

**PIĄTEK 22.VIII.**

10.00 „Tunel" — film fab. rum.-radz.; 11.30 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Zapowiedź Dnia TV Rumuńskiej w Telewizji Polskiej; 16.05 Dla dzieci: „Jacek jedzie do Bukaresztu" — film; 16.25 „Łabędzie" — filmowe obrazki przyrodnicze; 16.35 Dziennik TV; 16.50 Program oświatowy; 17.10 „Tunel" — film fab. rum.-radz.; 18.45 Reportaż; 19.00 „Arie operetkowe" — filmowy program muzyczny rum.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 19.55 Przemówienie Ambasadora Rumuńskiej Republiki Socjalistycznej; 20.15 IX Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. „Dzień Polski"; w przerwie ok. 21.25 Dziennik TV; 22.40 „Hajducy" — film fab. rum.

**SOBOTA 23.VIII.**

7.30 Parada Wojskowa z okazji święta narodowego Rumunii (Bukareszt); Po transmisji: „Hajducy" — film fab. rum.; Po filmie: Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Program tygodnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów pływackich o Puchar Europy; 18.00 „Wczoraj i dziś polskich skrzydeł" — program z okazji święta Lotnictwa; 18.35 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.15 IX Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. „Dzień Międzynarodowy"; W przerwie ok. 21.25 Dziennik TV; Wiadomości sportowe; Po transmisji ok. 22.45 „Urzeczona" — film fab. USA.

# З УРАЧЫСТАСЦІ ЎРУЧЭННЯ ЎЗНАГАРОД

**Яшчэ раз інфармуем, што Рада Дзяржавы ПНР 54 дзеячам нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў прызнала высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Урачыстасць уручэння іх адбылася 21 ліпеня. Ніжэй яшчэ раз падаем прозвішчы ўзнагароджаных з БГКТ і змяшчаем фотарэпартаж з гэтай урачыстасці.**

**Старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі ўзнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.**

**Галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі і дзеяч БГКТ з Гарадка Ніна Мушынская атрымалі Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы.**

**Залатыя Крыжы Заслугі прызнаны сакратару ГП БГКТ Івану Зенюку, старшыні Гайнаўскага аддзела Аляксандру Іванюку, сакратару Бельскага аддзела Уладзіміру Раеўскаму, актывісту Бельскага аддзела Васілю Антыпюку, актывісту Гарадоцкага адзела Ніне Цыванюк, актывісту Гайнаўскага аддзела Ніне Вішнеўскай, працаўніку ГП БГКТ Кастусю Хлябічу і старшыні Сямяціцкага аддзела Анатолю Мартыновічу (ён адсутнічаў пры ўручэнні ўзнагарод).**

**Сярэбраныя Крыжы Заслугі ўручаны старшыні Варшаўскага аддзела Юрыю Бусловічу, інструктару ГП на Гайнаўскі аддзел — Віктару Буру і члену ГП БГКТ з Рыбал Сяргею Філіпюку.**

**Бронзавы Крыж Заслугі атрымаў сакратар Міхалоўскага аддзела Аляксандр Хлябіч.**



Традыцыйная чарка віна з сакратаром Рады Дзяржавы ПНР Людамірам Стасякам і сакратаром АК ФАН — Зофіяй Томчык.



Памятны здымак дзеячоў БГКТ з намеснікам міністра ўнутраных спраў Багуславам Стахурай (ён у сярэдзіне).

Узрушаныя ўзнагародамі дзеячы БГКТ: Ніна Мушынска і Ніна Цыванюк з Гарадка, Юры Бусловіч з Варшавы і ўглыбі Васіль Антыпюк з Бельска.



Старыя знаёмыя, дзеяч БГКТ Ніна Мушынская і старшыня ГП РГКТ Юры Трэцякоўскі.



Сакратар Рады Дзяржавы ПНР — Людамір Стасяк віншуе з узнагародай старшыню УГКТ — Міколу Карольку.

На пярэднім плане — інструктар ГП БГКТ на Гайнаўскі аддзел БГКТ Віктар Бура і сакратар украінскага таварыства Рыгор Баярскі.



Сакратар Рады Дзяржавы ПНР дэкаруе Бронзавым Крыжам заслугі сакратара Міхалоўскага аддзела БГКТ Аляксандра Хлябіча.



Узнагароджаныя дзеячы літоўскага таварыства. Фота Цаф — Сянько

# ГІСТОРЫЯ АГУЛЬНА-СЛАВЯНСКАЙ ІДЭІ

У продажу паявіўся нядаўна 3-ці выпуск навуковых славяназнаўчых працаў «Z polskich studiów slawistycznych», звязаных з VI міжнародным славістычным кангрэсам, які адбыўся ў Празе ў 1968 годзе.. Том прысвечаны гісторыі славянскай ідэі, асабліва ў польскай грамадскай думцы.

Ідэалогія адзінства славян вядомая перад усім як рускае славянафільства. Была гэта, як вядома, кансерватыўная, рэакцыйная ідэалогія. Славянафілы імкнуліся да падпарадкавання ўсіх славянскіх народаў панаванню Расіі, а асноўную рысу, асноўную вартасць славян бачылі ў праваслаўі. Таму ідэалогія славянафільства была між іншым антыпольскай ідэалогіяй. Звязаная праз каталіцызм з лацінскім Захадам Польшча была для славянафілаў «здраднікам» славянскасці. З успомненай вышэй кніжкі даведаемся, што ідэалогія рускага рэакцыйнага славянафільства была не адзінай ідэалогіяй аб'яднання славян. Наадварот — была яна адной з многіх. У самай Расіі значна раней існавалі ідэі прагрэсіўнага, рэвалюцыйнага характару, абвяшчаўшыя адзінства ўсіх славянскіх народаў. Была гэта ідэалогія дэкабрыстаў. Падрабязна аб ёй расказвае Людвік Базылёў у артыкуле Idea federacji słowiańskiej w programie Stowarzyszenia Zjednoczonych Słowian. З кніжкі даведваемся таксама аб падобных да рускага славянафільства плынях на тэрыторыі Польшчы, якія з чаргі Польшчу ставілі ў цэнтры славянскіх народаў і вызначалі ёй сярод іх вядучае месца. Была гэта ідэя гэтак званай Сармацыі — спецыфічна акрэсленай супольнасці славян. Інфармуе аб тым Анджэй Грабскі ў артыкуле: «Poczucie jedności słowiańskiej a świadomość narodowa w Polsce średniowiecznej.»

Кніжка пабудавана на храналагічным прынцыпе. Пачынаецца яна артыкулам вядомага польскага археолага Генрыка Лаўмянскага аб генезісе полацкай зямлі. (Geneza ziemi połockiej). Аўтар артыкула разглядае ролю паасобных плямён у фармаванні беларускай народнасці, асабліва ролю крывічоў і балтыйскіх плямён. Аналізуе ён таксама характар сувязей Полацка з Кіевам у эпоху Кіеўскай Русі, падкрэсліваючы значную ступень яго палітычнай незалежнасці ў гэтую эпоху.

Варшаўскі гісторык Юліян Бардах у сваёй публікацыі ў аналізаванай кніжцы расказвае аб лёсе смердаў — незалежных князеўскіх сялян. Гэты грамадскі слой значна даўжэй існаваў на тэрыторыі Літвы і Беларусі, чымсьці ў карэннай Польшчы (Zmierzch smerdów na ziemiach Korony i Litwy). Аб пачуцці славянскай еднасці ў палякаў і чэхаў, сканстатаванай на падставе дакументаў дыпламатычных адносін паміж гэтымі краінамі, даведваемся з публікацыі Генрыка Гека.

Аж дзве публікацыі ў аналізаваным томе прысвечаны народніцкім ідэям, якія ўзніклі ў Расіі ў другой палове мінулага стагоддзя. Мар'я Ваўрыкава разглядае адносіны народнікаў да нацыянальна-вызваленчага руху палякаў і паўднёвых славян, а Яніна Журавіцка разглядае сувязі польскай публіцыстыкі з рускай народніцкай думкай. Адносіны польскіх палітычных кругоў да ідэі славянскай салідарнасці ў межах габсбургскай манархіі ў 60-я гады мінулага стагоддзя аналізуе ў асобным артыкуле Мечыслаў Танты.

На ўвагу заслугоўвае таксама артыкул Мацея Казьмінскага аб нарастанні нацыянальнай свядомасці паўднёвых славян, асабліва сербаў, на парозе XIX і XX стагоддзя. Аўтар разглядае ролю мовы і рэлігіі ў фармаванні нацыянальнай ідэалогіі. Гісторыка навейшых часоў зацікавіць напэўна артыкул Юзэфа Левандоўскага аб нацыянальных праблемах міжваеннай Польшчы, у асаблівасці аб выкарыстоўванні славянскіх ідэй для ўласных захопніцкіх мэтаў уладамі буржуазнай Польшчы. Усё сказанае вышэй сведчыць аб тым, што кніжка гэтая ўносіць шмат новага да дагэтуляшніх ведаў аб ідэалагічных праблемах славяншчыны.

**У. Паўлючук**

 

Пачатак на стар. 1

# БЕЛАСТОЦКІ ПРАФСАЮЗНЫ...

Артэміды» — у выкананні актрысы беластоцкага тэатра — Карыны Васькевіч, «Падарожжа да зялёных ценяў» Ф. Мешглінга — у выкананні Зофіі Ксёнжэк. Нярэдка ў вачах слухачоў паяўляліся слёзы, выкліканыя высока гуманітарным зместам спектакляў і сапраўды майстэрскім выканаўствам.

У 1965 годзе была ўведзена ў клубе як эксперымент новая форма — «Вечары трох музаў». Вечары спадабаліся і сталі пастаянным госцем у прафсаюзным клубе. Навасць гэтай формы заключалася ў тым, што ў канцэртах спалучаліся тры галіны мастацтва — паэзія, музыка і жывапіс. Гэта былі незабыўныя сустрэчы з вялікім мастацтвам у выкананні знатнейшых кампазітараў, інструменталістаў, спевакоў, акцёраў. Выступалі Б. Гэссэ-Букоўская, Р. Астраменцкі, Е. Ярашэвіч, Квяцінскі і многія інш.

Вялікую актыўнасць праяўляе самадзейны тэатр паэзіі, які існуе ад 1966 г. Даў ён да гэтай пары 7 самастойных праграм і шмат асобных паэтычных твораў. У кастрычніку 1968 г. тэатр пачаў працаваць над новым спектаклем, змест якога моцна прасякнуты ідэямі патрыятызму і барацьбы за мір, імкненнем паказаць сапраўдны воблік нямецкага рэвізіянізму. Была гэта пастаноўка «Рапарта з Мюнхена» Анджэя Брыхта. Спектаклем гэтым маладыя самадзейнікі сустрэлі 25-годдзе сацыялістычнай Айчыны. Спектакль заваяваў вялікую папулярнасць сярод жыхароў нашага горада, а таксама і другіх гарадоў. Ён быў паказан ужо 23 разы, а ўбачыла яго каля 6 тысяч чалавек: працуючыя многіх прадпрыемстваў, вучні сярэдніх школ, студэнты Медыцынскай акадэміі і Школы інжынерскай. На спектаклі быў прысутны аўтар, якому пастаноўка вельмі спадабалася. На запрашэнне студэнцкіх асяроддзяў і дзякуючы Беластоцкаму таварыству культуры, якое арганізавала выезд у сакавіку 1969 г., «Рапарт з Мюнхена» быў паказан студэнтам Універсітэта ім. М. Каперніка ў Торуні і Вышэйшай сельскагаспадарчай школе ў Ольштыне. На спектаклі ў Ольштыне прысутнічаў рэктар і многія навуковыя супрацоўнікі школы, якія пасля спектакля спаткаліся з выканаўцамі.

Запатрабаванне на гэты спектакль вельмі вялікае, і таму пасля канікул будзе ён яшчэ паказан. У будучыні клуб наш хацеў бы яшчэ лепш адгукацца на грамадскія патрэбы і яшчэ паўней гэтыя патрэбы заспакойваць. У гэтым вялікую дапамогу могуць аказаць жыхары Беластока.

Чакаем дапамогі ў справах найбольш трапнага выбару форм нашай дзейнасці, форм, якія найпаўней заспакояць патрэбы людзей.

**Янка Сычэўскі**
**Ст. інструктар Клуба прафсаюзаў у Беластоку**



**Кадр са спектакля «Рапарт з Мюнхена» А. Брыхта ў выкананні самадзейнага маладзёжнага тэатра Беластоцкага прафсаюзнага клуба.**

Пачатак на стар. 1

# ПАСТАНОВЫ ПАРТЫІ Ў РЭАЛІЗАЦЫІ

патрабуюць крыху часу, каб справы перадумаць. «Рабочыя, — гаворыць дырэктар, — не былі падрыхтаваны да дыскусіі над цэласцю праблем іх прадпрыемства, не спадзяваліся такой сітуацыі, што будуць магчы аўтарытэтна выказвацца на тэму будучых прадукцыйных планаў».

Былі таксама некаторыя недахопы з боку кіраўніцтва прадпрыемстваў, якое часта не задбала належным чынам, каб уключыць у дыскусію над апрацоўкай плана актыў грамадскіх арганізацый, як Саюз сацыялістычнай моладзі, Галоўная тэхнічная арганізацыя і г.д.

Нягледзячы на гэтыя недахопы, рабочыя Гайнаўкі на адкрытых партыйных сходах унеслі шмат важных для працы прадпрыемстваў прапаноў. Указана на шэраг недахопаў, а перад усім недахопаў арганізацыйнага характару, выпраўленне якіх можа дазволіць на хутчэйшае развіццё прадпрыемстваў. Указвана на занядбанні ў тэхналогіі, дрэннае выкарыстоўванне сыравіны, празмерны спех у працах, якія патрабуюць адпаведна павольнага рытму, неўласцівае выкарыстанне транспарту, на недахопы ў пастаўцы матэрыялаў на становішчы працы і г.д. Крытыкаваны былі памылкі ў інвестыцыях. Звярталася ўвага на недахоп належнага тэхнічнага кантролю над прадукцыяй. У адным толькі Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці рабочыя склалі 37 прапаноў, рэалізацыя якіх можа ў вялікай меры палепшыць працу прадпрыемства.

Можна спадзявацца, што, нягледзячы на пэўныя недахопы, новы падыход да праблем гаспадарчага развіцця будзе новым стымулам у далейшай разбудове прамысловасці Гайнаўкі.

**У. Паўлючук**

# НА ПАРОЗЕ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ



**Над возерам ля Аўгустова.** **Фота: аўтар.**

На парозе сямейнага жыцця змяняецца многа. Новыя абавязкі выклікаюць новы падыход да жыцця, новыя погляды, новыя адносіны да старых спраў і праблем.

Ведаюць аб тым добра актывісты маладзёжных арганізацый. Маладажоны зараз жа пасля шлюбу перастаюць прымаць удзел у іх працы і фактычна, хаця не фармальна, з арганізацый гэтых выступаюць. А яны ж не перастаюць быць маладымі!

Як дагэтуль, ніхто ў краіне не прабаваў супрацьдзейнічаць гэтай з'яве. Усур'ёз маладажонамі ўпершыню спрабавала заняцца ў гэтым годзе Ваяводскае праўленне Саюза сацыялістычнай моладзі (ЗМС) у Беластоку. У прыгожай турыстычнай мясціне Боркі каля Аўгустова арганізавала яно маладажонам летні лагер. Маладажоны прыехалі. Грэюцца ў летнім сонцы, загараюць, купаюцца ў вадзе, плаваюць лодкамі па шырокіх аўгустоўскіх азёрах. Апрача таго, знаёмяцца бліжэй з дзейнасцю і заданнямі ЗМС. Ды не толькі гэта. Праграма ЗМС-аўскага лагера ў Борках разнастайная, цікавая і павучальная. Сустрэчы з палітычнымі дзеячамі і цікавымі людзьмі краіны, мастакамі, лекарамі, журналістамі, гутаркі на розныя патрэбныя ў жыцці практычныя тэмы, як густоўнае ўпрыгожанне памяшкання, ахова здароўя, выхоўванне дзяцей і г.д. шэраг цікавых гульняў, экскурсіі па азёрах — вось што запрапанавала праўленне ЗМС маладажонам Беласточчыны.

Сустрэчу з удзельнікамі лагера меў між іншым старшыня Найвышэйшага бюро кантролю (НІК) і Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю Зэнан Новак, першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Аркадзіуш Лашэвіч і выдатны польскі акцёр Войцех Семён. Лагер наведалі таксама рэдактары «Палітыкі», «Валькі Млодых», «Свята Млодых» і іншых часопісаў.

Лагер спадабаўся маладым людзям, якія нядаўна сталі сямейнымі. Члены ЗМС прывязлі з сабою жонак, а жонкі мужоў, якія да арганізацыі не належаць, многія прыехалі са сваімі малышамі. На пытанне журналіста, ці прынялі б яны ўдзел у падобным лагеры, калі б арганізаваўся ён у наступным годзе, амаль усе адказалі, што так, прынялі б, ахвотна. На пытанне, што найбольш спадабалася ў лагеры, удзельнікі яго на першым месцы паставілі сустрэчы з цікавымі людзьмі.

На пытанне аб прычынах, па якіх маладыя людзі, уваходзячы ў сямейныя сувязі, пакідаюць маладзёжныя арганізацыі, большасць членаў лагера ўказала на новыя сямейныя абавязкі, недахоп часу, неабходнасць апекі над дзіцём і г.д. Амаль усе маладажоны трактуюць гэтую з'яву як ненармальную і лічаць патрэбным супрацьдзейнічаць ёй. Усе яны ахвотна прымалі б удзел у працы арганізацыі, калі б тая апрача грамадска-палітычнай дзейнасці вяла дзейнасць, якая мае практычнае застасаванне асабліва ў сямейным жыцці. Ахвотна прыходзілі б яны, скажам, на сходы, на якіх вяліся б дыскусіі, гутаркі, парады на тэмы юрыдычнага ці медычнага характару, на тэмы маралі і паводзін чалавека, каханне і г.д. Падкрэслівалася таксама патрэба больш частых сустрэч у паасобных арганізацыях ЗМС з цікавымі людзьмі краіны, накшталт тых, якія мелі месца ў лагеры.

Журналіст меў аказію пазнаёміцца з думкай удзельнікаў лагера і ў іншых справах. Вось хаця б мэты, дзеля якіх кожны з іх уступіў у рады маладзёжнай арганізацыі. У праведзенай у гэтай справе ананімнай анкеце прапанавалі розныя адказы на гэтае пытанне, між іншым і такія: «Усе з'яўляюцца членамі ЗМС, дык і я таксама»; «Калі б не належаў да ЗМС, дрэнна на гэта глядзелі б мае начальнікі» і г.д. Ніводзін з адказваючых не згадзіўся з такім адказам. Амаль усе тым часам заявілі, што галоўным стымулам іх прыналежнасці да маладзёжнай арганізацыі была ахвота прымаць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці моладзі.

Успамянуты лагер з'яўляецца першай спробай сістэматычнай працы ЗМС з жанатымі і замужнімі членамі. Таму Ваяводскае праўленне Саюза правяло з імі шэраг размоў і анкет, якія дапамогуць гэтай арганізацыі зрабіць усё, каб «маладосць» яе членаў не канчалася на шлюбным дыване.

**Ул. Паўлючук**

# У ГАСЦЯХ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Паміж Гродзенскай вобласцю і Беластоцкім ваяводствам добра развіваецца супрацоўніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Прадстаўнікі паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў узаемна абменьваюцца вопытам у працы, адны да другіх ездзяць у госці. Гэтак сама ёсць і паміж журналістамі. Журналісты «Гродзенскай праўды» і Гродзенскага радыё бываюць у Беластоку з некалькідзённым візітам і журналісты «Газеты Беластоцкай», «Нівы» і Беластоцкага радыё наведваюць Гродзеншчыну. Нядаўна (7—11 ліпеня) мне з «Нівы» і двум журналістам «Газеты Беластоцкай» С. Свераду і В. Млынчыку таксама давялося пабываць у Гродне і ў Шчучынскім і Лідскім раёнах.

Коратка аб Гродне. Старажытны горад Беларусі з цудоўным Нёманам, з велізарнымі заводамі і фабрыкамі і працавітым, гасцінным, добрым людам. Пабывалі мы ў дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі і захапляліся ім, наведалі дом Элізы Ажэшка, гасцілі ў пісьменніка Аляксея Карпюка — сакратара абласнога аддзела Саюза пісьменнікаў БССР, які цікава расказаў аб пісьменніках Беларусі і аб іх творчасці. Пабывалі мы і на гродзенскай ба-



**Ля кургана Бяссмерця ў горадзе Лідзе.**
**Злева направа: Станіслаў Сверад з «Газеты Беластоцкай», галоўны рэдактар раённай газеты «Уперад» Аляксандр Богуш, Віргіліюш Млынчык — журналіст «Газеты Беластоцкай», Алесь Жалкоўскі — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Уперад», Міхась Хмялеўскі — журналіст «Нівы» і Барыс Папоў — журналіст «Гродзенскай праўды».**

воўнапрадзільнай фабрыцы. Яна абсталявана самым навейшым абсталяваннем. З гэтай фабрыкай супрацоўнічаюць нашыя «Фасты».

**Шчучын.** Сустрэча з сакратаром райкома. Слухалі яго расказ, падмацаваны канкрэтнымі данымі аб развіцці раёна, даведваліся аб высокіх паказчыках зернавых культур, кармавога лубіну і цукровых буракоў, аб тым, што гаспадарка раёна мае малочна-мясны напрамак.

Пасля мы ў прыгарадным калгасе імя 1-га Мая знаёміліся з гаспадаркай і людзьмі. Вялікае зацікаўленне выклікала ў нас тое, што калгаснікі атрымоўваюць кожны месяц зарплату і яна даволі вялікая. Нас, журналістаў, асабліва цікавіла праца рэдакцыі. І вось у рэдакцыі раённай шчучынскай газеты «Савецкая Вёска» даўжэйшы час гутарылі мы з галоўным рэдактарам, які адначасова з'яўляецца і загадчыкам мясцовай друкарні, гутарылі з працаўнікамі рэдакцыі, якія нам уручылі кветкі і надзвычай сардэчна спатыкалі нас.

Не заўважаем, як хутка бяжыць час, і наш суправаджаючы Барыс Папоў (ён кіраўнік ідэалагічнага аддзела «Гродзенскай Праўды») зноў сцвярджае, што мы не ўкладваемся ў апрацаваны графік праграмы нашай пабыўкі.

9 ліпеня шафёр Гена вязе нас у Ліду, — прамысловы горад Гродзеншчыны. Пад'язджаем да рэдакцыі раённай газеты «Уперад» і тут зноў сябры па пяру ўручаюць нам кветкі, запрашаюць у сваё памяшканне, цікавяцца стылем



 




## ПАХ СКВАРАК З ЦЫБУЛЯЮ

Хачу зрабіць адразу засцярогу: тое, што буду пісаць, не з'яўляецца рэцэнзіяй на надрукаваную нядаўна кніжку Сакрата Яновіча «Загоны». Кніжка гэтая вельмі неаднародная па сваёй форме, па зместу і, праўдападобна, па мастацкаму ўзроўню. Хачу толькі звярнуць увагу чытача на шэраг змешчаных у кніжцы твораў, якія ўказываюць на глыбокія праявы жыцця чалавечай псіхікі, у акрэсленых грамадска-культурных умовах. Сакрат Яновіч з'яўляецца проста таленавітым і надзвычай чуллівым назіральнікам інтымнага, глыбока ўнутранага жыцця свайго акружэння, сябе самога і ўмее пераказаць гэтыя назіранні ў мастацкай форме.

Паспрабуйма тады пайсці гэтай дарогай: са шматлікіх, раскіданых па кніжцы мініяцюрных апавяданняў, апісанняў дробных, часта, здавалася б, зусім без значэння дробязей і падзей скласці пэўную лагічную цэласць, якая складаецца на жыццёвую праўду, жыццёвую мудрасць сталага, вопытнага чалавека, якім з'яўляецца іх аўтар.

Праўда гэтая простая, голая, амаль банальная: жыццё зведзенае толькі да грамаджэння і карыстання прадметамі матэрыяльнага дастатку з'яўляецца жыццём няпраўдзівым, нецікавым, «хаўтурным».

**«Зайздросцяць: ён пабудаваў сваё жыццё! Купляў цэглу па цэгле, будаваў паверх за паверхам, бачыў далей і радасней. («Меў ужо ўсё»). «І пах ад летняй кухні, у якой (ужо) жонка смажыць катлеты на абед. І летняя бура з бліскавіцамі — быццам у хаўтурным фільме пра хаўтурнае жыццё». («Адысея паўмяшчаніна»).**

Сітуацыя такая родзіць надзвычайную ўражлівасць на сам факт часу, набліжэння старасці і жах перад гэтым.

**«Меў трыццаць год і думаў аб старасці. Знаёмым па сорак і яны старыя. Хвілінамі чуўся як той, каго гоняць сабакамі і ён, дабегшы да варот, бачыць, што вароты зачынены наглуха! Значыць, канец...» («Сумненне»).**

Нават сустрэча са старымі добрымі прыяцелямі і сябрамі нічога тут не змяняе, час сцёр сапраўдныя чалавечыя адносіны паміж імі **(«Сустрэча»).** Можа найбольш наяўна безнадзейнасць такога яловага, звычайнага жыцця выяўлена ў даўжэйшай аповесці **«Ён і іншыя»,** дзе перад вачыма героя перасоўваецца цэлая галерэя ананімных, часам вядомых яму, але тым не менш чужых постацей, з якімі не мае сіл і магчымасці навязаць блізкі псіхічны кантакт.

Які выхад з такой сітуацыі і дзе аднайсці сапраўдныя чалавечыя вартасці? «Як жыць? Якой цаною? **(«Пра найважнейшае»).** Сакрат прабуе аднайсці іх у некалькіх месцах, некалькімі рознымі спосабамі: у сапраўдным сямейным жыцці і яго інтымнасцях **(«Шчаслівасць», «Памяць»),** у чалавечай годнасці, а перад усім годнасці кахання, годнасці жанчыны.

**«А думаючы аб прыгожых жанчынах, думаў аб годнасці. Бо годнасць мае цяпер у яго адну-адзінюсенькую назву: жанчына. Жанчына дае жыццё, яна — маці свету! Чым больш зганьбаваных жанчын, тым больш зганьбаваны свет...» («Сумненне»).**

Знаходзіць яшчэ на момант Сакрат Яновіч гэтую асноўную вартасць жыцця ў назіранні чагосьці вялікага, незвычайнага, нештадзённага **(«Бура на хутары»),** і мае надзею, што можна знайсці яе ў зусім іншым, прымітыўным жыцці на ўзлонні прыроды **(«Супрун»).**

Асноўны аднак метад, пры дапамозе якога сябра Сакрат аднаходзіць вартасць жыцця, з'яўляюцца ўспаміны, паварот да мінулага, да дзяцінства. Жыццё, такім чынам, быццам бы «закругляецца», сучаснасць — гэта не толькі перажыванні адзінокага Юркі на беластоцкай вуліцы, але і ўсё, што было: сум палёў падчас дурных дзіцячых гульняў **(«Увечары на Сакольскай»),** акно, якое «пахне смажанай бульбай, і свежым малаком, і цыбуляй са скваркамі» **(«У глыбі дзяцінства»)** і г.д. Лейтматывам усяе творчасці Сакрата Яновіча, якую тут маю на думцы, можа быць вядомы ўжо яго твор, пісаны ў стылі народнай песенькі **(«Сыну»),** які канчаецца сцвярджэннем аб неабходнасці павароту ў пэўных момантах жыцця да матчынай калыханкі.

Такім чынам, Сакрат Яновіч вяртаецца да адвечнай праблемы ўсялякай вялікай літаратуры, пачынаючы ад Біблій праз Пруста, Канрада, да найбольш авангардных аўтараў, да праблемы пошукаў страчанага Раю, Зямлі Абяцанай, Шчаслівай Аркадыі, Патусану, Парландыі ці Утопіі. Да пошукаў краіны шчасця, якой нейкім заменнікам з'яўляецца прастадушны, наіўны свет дзяцінства. Зразумела, было б няскромнасцю не толькі ў адносінах да сябра Сакрата, каб сказаць, што ўдалося яму развязаць гэтую праблему нароўні з пералічанымі вышэй найвялікшымі майстрамі слова. Але факт, што гэтыя агульначалавечыя праблемы аўтар нанава ставіць і па-свойму развязвае (і то зусім нядрэнна) у рэаліях жыцця беларускай меншасці Беласточчыны, ставіць добрае пасведчанне яго інтэлігенцыі і літаратурным здольнасцям.

**У. Паўлючук**

# ШКОЛЬНІКІ З БЕЛАРУСІ

Па запрашэнню гарцэрскага гуфца ў Беластоку прыехалі на адпачынак у Аўгустоўскі павет школьнікі з Гродзеншчыны. Жылі яны пад палаткамі разам з нашымі гарцэрамі і адчувалі сябе даволі добра. Для гасцей былі арганізаваныя экскурсіі: у Аўгустова, Сувалкі і Варшаву. Пазнаёміліся таксама з горадам Беластокам. У перадапошні дзень перад выездам былі яны гасцьмі гарцэрскага лагера ў Зялёнай каля Беластока. Тут быў арганізаваны развітальны вечар. Прыбылі на яго: працаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП Аляксандр Бельскі, камендант гуфца — Баляслаў Кафтанскі, кіраўнік аддзела зухаў — Станіслаў Бібік, члены прэзідыума Ваяводскай рады гарцэрскай палкоўнік Тадэуш Чайкоўскі, Вацлаў Якубоўскі, Лешак Каралеўскі, а таксама старшыня БГКТ Міхась Хмялеўскі і сакратар ГП БГКТ Іван Зенюк. Усе яны прысутнічалі на ўрачыстай лінейцы (апэлю), а пасля на супольнай вячэры. Вечар закончыўся канцэртам эстрады ГП БГКТ «Лявоніха».

Пасля адбылася сустрэча вышэй успомненых асоб і кіраўніцтва лагера з пяціасабовай групай выхавацеляў з Гродзеншчыны. Станіслава Бахэр (кіраўнік групы), Галенай Кумко, Лідзіяй Ярмаловіч, Восіпам Прынцэвічам і Лідзіяй Нажко. Сустрэча прайшла ў вельмі прыемнай сардэчнай атмасферы.

(м.с.)



**Піянеры на ўрачыстай лінейцы.** **Фота Цаф — Сянько**

працы польскіх газет, жанрамі публікацый, жыццём журналістаў. Як у Шчучыне, так і ў Лідзе з журналістамі нейк адразу паяўляецца непасрэднасць, шчырасць размовы, сардэчнасць, быццам мы ўжо былі даўно знаёмы. Гэта вельмі каштоўнае і яно доўга памятаецца.

Пасля накіроўваемся да Кургана Бяссмерця. Узнесены ён у памяць загінуўшым людзям у гады нямецкай акупацыі і ў баях Айчыннай вайны. Вакол яго — вялікі сквер. Тут узлажылі мы кветкі. Шматлікія надпісы на кургане так дабраныя, што калі іх чытаеш, сціскаецца сэрца. Яны заклікаюць вечна памятаць аб тых, што аддалі сваё жыццё за вызваленне гэтых зямель ад нямецкіх захопнікаў.

З Кургана Бяссмерця ўсе разам паехалі мы ў абутковую фабрыку. Тут у суправаджэнні намесніка дырэктара і інжынера наведалі мы ўсе асноўныя аддзелы вырабу разнароднага абутку. Працуюць тут у асноўным жанчыны, а сярод іх вельмі многа маладых дзяўчат.

Каля фабрыкі стаіць помнік рабочым, якія загінулі ад рук нямецкіх акупантаў. Тут разам з прадстаўнікамі фабрыкі з'елі мы супольна змястоўны абед. З гэтуль накіраваліся на шклозавод «Нёман» і азнаёміліся з вырабам шклянак, чарак, слоікаў, сподачкаў і іншых вырабаў.

Па шклозаводзе суправаджала нас таксама сакратар райкома партыі Валянціна Ніканава. З намі яна ездзіла ў калгас «Сцяг Саветаў». Многа расказвала аб знатных людзях свайго раёна, аб партыйнай працы, аб перспектыўных планах па разбудове горада Ліды і калгасаў.

У калгасе «Сцяг Саветаў» вядзецца адкорм кожны год 900—1000 штук быдла. Усяго пагалоўя быдла налічваецца звыш 2000 штук. У гэтым 450 штук малочных кароў. Калгас мае 4500 га зямельных угоддзяў. У мінулым годзе на 280 га праведзены дрэнаж. Вядзецца ён у бягучым годзе. Усіх людзей каля 1000 чалавек, а працаздольных — каля 600. На тэрыторыі калгаса ёсць бальніца, два фельчарска-акушэрскія пункты, 2 пачатковыя школы, 2 васьмікласныя і адна сярэдняя школа. Зараз будуецца тут лазня і сучасны цялятнік на 240 штук. Будзе будавацца палац культуры. У мінулым годзе агульна на месяц выходзіла калгаснікам па 95 рублёў зарплаты.

Пабывалі мы таксама і злажылі кветкі ў вёсцы Леснікі, дзе немцы расстралялі 81 чалавека. Пастаўлены там помнік і ў сувязі з 50-годдзем савецкай улады пасаджана вакол помніка 81 дрэва. Будзе прыгожы скверык. У калгасе «Сцяг Саветаў» была арганізавана для нас вячэра з традыцыйнай чаркай віна. Было тут весела. Вярнуліся ў Гродна мы даволі позна. Перад выездам з Гродна ў Беласток пазнаёміліся мы з карэспандэнтам «Звязды» Вітальдам Яноўскім, з якім пасябравалі. На Гродзеншчыне былі мы мала, але незабыўных ўражанняў вывезлі вельмі многа.

**М. Хмялеўскі**

**С. Яновіч**

# КРЫНКІ-АД КРЫНАК

Крынкі святкуюць сваё 400-годдзе. Сталася гэта магчымым дзякуючы адшуканым «Нівай» і апісаным дакументам ды матэрыялам, якія датычаць даўняй гісторыі мясцовасці. Першым «ніваўскім» паведамленнем аб крынкаўскіх старажытнасцях трэба лічыць публікацыю ў 1958 годзе рэд. Міхася Хмялеўскага, які паслужыўся данымі хронікі тутэйшай царквы.

У адным са сваіх верасnёўскіх нумараў ад 1968 года «Ніва» змясціла м. ін. пераказ падставовага дакумента — каралеўскую прывілею на правы гарадское магдабургскае ад лістапада 1569 года. Таму і чатырохсотгоддзе!

Найболей шырокае апісанне гісторыі Крынак змешчана ў «Беларускім календары на 1969 год». Хутка аказалася аднак няпоўным яно.

Адкуль назва Крынкі? Узялася яна ад старабеларускай назвы глінянага посуду — «крынка». Ад таго і рэчка Крынка, а не Крынчанка, як памылкова завуць яе маладыя. Відаць, першыя людзі ў даліне гэтай рэчкі займаліся вырабам крынак — гаршкоў. У ваколіцы значныя паклады гліны і глею. Самая ж сядзіба Крынкі, на грудзе пасярод вялікай даліны, узнікла праўдападобна каля сямісот гадоў таму назад у сувязі з экспансіяй усходнеславянскага племені дрыгавічоў у кірунку рэдка заселенага літоўцамі Прынёманскага краю.

Сядзіба крынкаробаў пераўтварылася з часам у мнагалюдную мясцовасць. Крынкі аказаліся на вялікім гандлёвым і палітычным шляху ад слыннай купецкай Рыгі цераз сталіцу Літвы, Вільню, Трокі, Горадню (Гродна), Адольск (Адэльск)), Крынкі да крэсавай дрыгавіцкай крэпасці Гарадок і далей, цераз абшары валынска-палескай каланізацыі, цераз «места» Нараў на Бельск, Мілейчыцы, Мельнік, Брэст, Люблін аж у Кракаў, сталіцу Польшчы. З Кракава на берагі міжземнага мора, дзе багатыя гарады і антычная культура. Значэнне Крынак было не абы-якое, калі сам вялікі князь літоўскі Зыгмант Кейстутовіч моцна запрашаў сюды караля Уладзіслава Ягайлавіча, пасля ягонага палявання ў Белавежскай пушчы. Кароль прыехаў з пушчы ў Крынкі ў пачатку сакавіка 1434 года, у прадвесне. Тут быў аднаўлены палітычна-мілітарны саюз Літвы з Польшчай, саюз, што зусім загас у часы панавання амбітнага Вітаўта, вялікага князя, які малавеле не дабіўся ў папы рымскага тытула караля Літвы і Белай Русі. Справу перапыніла смерць Вітаўта. Ён бываў у Крынках.

Крынкі часта гасцілі каралёў. Ад таго і назвы вёсак Служанка (Случанка), Каралёвае Стойла, Каралёў Мост у даўняй Крынскай пушчы, дзе спыняліся на папасы і вадапоі абозы манархаў. У каралеўскай канцылярыі існуе дакумент, з якога вынікае, што кароль Зыгмунт І Стары, падарожнічаючы з Вільні ў Польшчу, знаходзіўся ў Крынках 21 лютага 1509 года, дзе назначыў сваім пакаёвым на вавельскім замку нейкага Станіслава Азароўскага. У той жа дзень кароль рушыў у далейшае падарожжа і затрымаўся ў Каладзёжнай. Тады называлася так альбо цяперашняя вёска Халодныя Валокі, альбо Калоднае ля Каралёвага Моста. Ці затрымаўся ён толькі на папас, ці мо меў якую справу ў Каладзёжнай? Хутчэй гэтае першае... У Мілейчыцах Зыгмунт Стары быў праз чатыры дні пасля, 25 лютага. З таго факту вывад такі, што кароль, відаць, ладзіў справы і ў Гарадку, і ў Нарве і ў Бельску...



**Фота Цаф — Сянько**

Крынкі ўжо былі горадам да вядомай нам даты 1569 г. У польскіх гістарычных публікацыях упамінаецца, што той жа кароль Зыгмунт І Стары ў 1509 годзе Крынкам даў герб. Які герб? На жаль, не можна нічога канкрэтнага ўстанавіць. Не знойдзена ніякага дакумента наконт таго. Канкрэтна, калі Крынкі сталі горадам — невядома. Мо яшчэ ў XV ст, а мо ад 1509 года? Пэўнае адно: найбольшыя гарадскія правы атрымалі яны менавіта ў лістападзе 1569 года. Чатырыста год таму назад!

**(Працяг у наступным нумары)**

# ПАПЯРОСЫ, ЦЫГАРЫ? ДЗЯКУЮ, НЕ КУРУ!



### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Першыя лісткі тытуню ў Еўропу прывёз з Цэнтральнай Амерыкі К. Калумб. Гэта было ў 1519 годзе. На гэты час тытунёваму дыму прыпісвалася лячнічае дзеянне. Французскі пасол у Партугаліі так у гэта паверыў, што стаў галоўным прапагандыстам курэння, закладаючы ў 1559 г. першыя плантацыі тытуню. Першыя тытунёвыя лісткі ў Польшчы паявіліся каля 1580 г., якія былі прывезены з Турцыі. Ва ўсёй Еўропе тады кураць з люлькі, хаця ўжо вядома, што тытунь не мае ніякіх лячнічых уласцівасцей (як доказ гэтага было вывядзенне тытуню з продажу ў аптэках), а наадварот, найбольш заўзятыя курцы адчуваюць, што «штосьці тут не так». Аднак дрэннай прывычкі не могуць ужо ліквідаваць пазнейшыя, выдаваныя галовамі дзяржаў забароны курэння. У канцы XVIII стагоддзя паяўляюцца першыя цыгары, а ў Іспаніі пачынаецца выраб папяросаў. Заложаная ў Пецярбургу ў 1847 годзе фабрыка папяросаў па 1900 год выпусціла ў свет 4 мільярды штук папяросаў.

У гэтым часе анатомапатолаг доктар Гампельн праводзіць у Рызе доследы, з якіх вынікае ў 1893 г., што ў тры разы пабольшылася колькасць смяртэльных выпадкаў ад рака. Калі ў 1900 г. колькасць смяртэльных выпадкаў ад рака пабольшылася ў Расіі ў дзесяць разоў, іншыя зацікавіліся доследамі доктара Гампельна, і аказалася, што ўсе тыя, што памерлі ў шпіталі ў Рызе, курылі папяросы. Ва ўсім свеце пачаўся запужваючы ўзрост колькасці захворванняў на рака лёгкіх.

### ЖЫВУЦЬ 8 ГОД КАРАЦЕЙ

Аказваецца, што ў Польшчы колькасць смяртэльных выпадкаў ад рака лёгкіх узрасла ў некалькі разоў на працягу апошніх дзесяткаў год. Зараз гадавая смяротнасць ад гэтай хваробы складае каля **120** выпадкаў на **100 ТЫСЯЧ** жыхароў. Узрост наступае паралельна да ўзросту спажывання тытунёвых вырабаў. У мінулым годзе ў Польшчы выкурылі **64 мільярды папяросаў за 13,5 мільярда злотых.**

**Закаранелыя курцы жывуць у сярэднім на 8 год карацей ад некурашчых.** Жыццё іх скарачае змесціва тытунёвага дыму: нікацін, вокіс вугалю і смалаватыя целы, не лічачы іншых 297 складнікаў, таксама неабыякавых для людскога арганізма. Нікацін быў выяўлен у 1828 годзе. З'яўляецца ён бясколернай вадкасцю, якая на паветры робіцца карычневай, пякучай і горкай, мае запах тытуню. **Адна кропля нікаціну (0,06 грама), калі змясціць яго пад языком чалавека, забівае яго на працягу 10-ці мінут!**

Чалавеку, які выкурвае ў дзень **10 папяросаў,** асэджваецца на бронхах на працягу года больш кілаграма смалаватых субстанцый. Частку з іх арганізм выдаляе звонку, частка дастаецца да кровазвароту і часткова выдаляецца з мочам, а рэшта застаецца ў арганізме, знішчаючы слізістую абалонку бронха, а адсюль ужо толькі крок да перадракавага стану.

### СПЕЦЫЯЛІСТЫ РАЯЦЬ

Ніякае курэнне не з'яўляецца прадуманым. Можна аднак паменшыць шкоднасць курэння, што ахоўвае ад прыкрых паслядоўнасцей. Курцам-апартуністам спецыялісты раяць: курыць папяросы з фільтрам (затрымлівае ён каля 20% шкодных субстанцый), і толькі да паловы, бо ў канцы папяросы збіраецца найбольш нікаціна. Курыць памалу і па меры магчымасці не зацягвацца. Не курыць адной папяросы за другой. Не выцягваць ніколі папяросы, калі ты галодны, або калі маеш пусты жалудак. Не піць, калі курыш (атрутныя складнікі дыму вельмі лёгка распускаюцца ў вадкасцях). Не курыць у малых і замкнутых памяшканнях.

(а-к)




### САНАТОРЫЙ ПАД ЗЯМЛЁЙ

Ёсць у Польшчы дзіўны санаторый. Знаходзіцца ён на глыбіні 211 метраў пад зямлёй, гэта так, як бы семдзесят паверхаў звычайнага дома толькі ліфтам уніз, пад зямлю. Сцены пакояў — гэта неспатыканыя малюнкі прыроды — выразаныя ў саляных сценах і столі. Бо ўвесь гэты санаторый знаходзіцца ў сольнай шахце ў Вялічцы.

Як паказалі шматгадовыя доследы польскага лекара — даследчыка дац. М. Скулімоўскага, спецыяльныя кліматычныя ўмовы ў падземных гротах адыгрываюць непараўнальна вялікую ролю ў лячэнні такіх хвароб, як астма і бранхіты, а таксама іншых хвароб алергічнага паходжання і звязаных з імі хвароб сэрца і павышанага крывяного ціску.

Па ініцыятыве дац. Скулімоўскага ў 1964 г. адкрыўся першы ў свеце падземны санаторый, дзе паветра і запах — галоўныя лякарствы. У падзямеллях санаторыя хворыя людзі праводзяць ад 5 да 16 гадзін, тут яны спяць, а на паверхню выходзяць на лекарскі агляд і



прагулкі. Да неабходных прыналежнасцей пацыентаў належаць шахцёрскія каскі і спецыяльныя маскі з паглынальнікам чаду (на выпадак пажару). Бяспеку пацыентаў ахоўваюць персанал санаторыя і інжынер-шахцёр.

У санаторыі лечацца вельмі цяжка хворыя, тыя, каму ўжо фармацэўтычныя сродкі амаль нічога не даюць.

І як паказвае статыстыка, пацыенты санаторыя «Кінга» (бо так ён завецца), а было ўжо іх каля 2 тыс., адчуваюць паляпшэнне стану здароўя на перыяд ад паўгода да некалькіх гадоў. І гэта хворыя, якія ўжо амаль не верылі ў магчымасць лячэння!

Шкада толькі, што хворыя людзі чакаюць на месца ў гэтым адзіным санаторыі па некалькі год. Бо ў санаторыі ёсць толькі 28 ложкаў. Гэта як кропля ў моры на столькі хворых хваробамі, якія ўжо даўно залічаны да грамадскіх, г.зн. часта спатыканых хвароб. Аднак галоўны лекар і дырэктар санаторыя «Кінга» дац. Скулімоўскі верыць у тое, што яму ўдасца ў бліжэйшыя гады пашырыць санаторый да 150 санатарыйных і 50 амбулатарыйных месц. Саляная шахта ахвотна адвядзе саляныя гроты, а на паверхні ёсць умовы на будаўніцтва неабходных будынкаў.

Па прыкладзе Польшчы і на падставе доследаў дац. Скулімоўскага падобныя санаторыі нядаўна створаны ў Савецкім Саюзе, у Венгрыі, у ГДР і ФРГ. Аднак у кожным з гэтых санаторыяў непаўторныя кліматычныя ўмовы — розная вільготнасць, тэмпература, іншы склад пылу, газаў і г. д.

(я)

# КАСМІЧНАЯ ТРОЙКА

21 ліпеня мільёны тэлегледачоў усяго свету былі сведкамі гістарычнага моманту: чалавек зрабіў першы крок на Месяцы, крок спачатку асцярожны, потым ужо больш пэўны. Першым чалавекам, які ступіў на Месяц, быў астранаўт Найл Армстронг, капітан касмічнай экспедыцыі. За ім сышоў на месячны грунт і яго таварыш Эдвін Олдрын, доктар астранаўтычных навук і спецыяліст па стыкоўцы ў космасе. Астранаўты зрабілі агляд месца, дзе прызямліліся, сфатаграфавалі яго, сабралі кавалкі месячнага грунту, замацавалі навуковыя прыборы — пасіўны сейсмометр для рэгістрацыі магчымых «месяцатрасенняў», люстра для адлюстроўкі лазерных праменняў (дзякуючы яму можна будзе з дакладнасцю да некалькіх сантыметраў устанавіць перасоўванне мацерыкоў на Зямлі). Усе гэтыя ўстаноўкі асталіся на Месяцы і будуць служыць людзям.

Пасля шпацыру па Месяцы астранаўты вярнуліся ў сваю кабіну, адпачылі і, узняўшыся на наколмесячную арбіту спалучыліся са сваім караблём, дзе іх чакаў пілот Майкл Колінз, вельмі мужны і здольны чалавек. Ужо будучы касманаўтам М. Колінз перанёс цяжкую аперацыю пазваночніка, але вярнуўся ў сям'ю касманаўтаў і дабіўся да таго, што яго ўключылі ў склад экіпажа «Апалона—11».

Усёй гэтай тройкай касманаўты шчасліва вярнуліся на зямлю.

Праца па праграме «Апалон» вялася на працягу 10 гадоў, у яе рэалізацыі ўдзельнічалі дзесяткі тысяч фірм і арганізацый, сотні тысяч людзей. Трэба было вырашыць шмат навукова-тэхнічных праблем, якія патрабавалі шырокіх эксперыментаў. Была створана на зямлі эксперыментальная база, дзе можна было праверыць надзейнасць розных сістэм. Усё гэта пацягнула за сабой мільярдныя сумы долараў — заўважальную частку бюджэту ЗША.

Цяпер вучоныя старанна даследуюць прывезеныя з Месяца камені. Ужо вядома, што камені пакрыты тонкім слоем касмічнага пылу, а ў іх хімічным складзе вялікую частку складае тытан.

Далейшыя доследы прынясуць яшчэ шмат новых і цікавых адкрыццяў.

(я)



АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА




### ЗУБАРАЎ

Гэта быў вораг. Але вораг нейкай асаблівай афарбоўкі, складаны і супярэчлівы ў сваіх учынках. Агент гестапа, актыўны член, а то і кіраўнік антысавецкай эміграцкай арганізацыі — і раптам вось такое... І яшчэ многае іншае: падпісваў яўна завышаныя заяўкі на медыкаменты і «не мог не ведаць, як сцвярджаюць цяпер некаторыя былыя работнікі бальніцы, што гэта для партызан». Сустрэў аднойчы Арэхава ў горадзе пасля таго, як той пайшоў у атрад і сказаў Веры Кароль:

— Бачыў на вуліцы пана Арэхава. Перадайце яму: калі пайшоў у партызаны, дык няхай сядзіць там. Навошта яму ў горадзе паказвацца? Заб'юць хлопца, шкада будзе...

І яшчэ, і яшчэ... І далейшыя яго ўзаемаадносіны з Уладыкай: калі санітарка цяжка захварэла і ляжала ў бальніцы, каб ніхто не бачыў, насіў ёй у палату ежу. А калі жанчына памерла, Зубараў выкінуў ужо зусім дзіўны нумар: сабраў увесь персанал бальніцы, загадаў жанчынам павязаць касынкі з чырвонымі крыжыкамі і пайсці ў царкву. Адслужыць малебен за ўпакой яе душы.

Што было схавана за ўсім гэтым? Паказная дабрата? Заігрыванне? Ці разлік на «аўтарытэт»? Ці яшчэ што-небудзь іншае, невядомае нікому?

Дакументы. Выказванні і прызнанні самога Зубарава, яго паплечнікаў. Яго сяброў і «ворагаў». Работнікаў бальніцы. І зноў тая ж супярэчлівасць — то чорныя, то шэрыя, то амаль што белыя фарбы.

...Яго вяртанне ў «Расію», на сваю радзіму, аб якой так марыў дзесяцігоддзямі, памяць аб якой непарыўна звязваў са светлымі ўспамінамі дзяцінства і юнацтва, было азнаменавана страшным, неверагодным злачынствам. І ён, Зубараў, рускі інтэлігент, сын рускага земскага ўрача, быў сведкам і ў нейкай меры непасрэдным удзельнікам гэтага злачынства.

Немцам тэрмінова спатрэбілася памяшканне 2-ой псіханеўралагічнай бальніцы пад свой шпіталь. А куды хворых? Зубараву, які быў тады галоўным урачом гэтай бальніцы, фашысты прапануюць пакінуць 30-35 чалавек, а ўсіх астатніх... Двойчы на грузавіках прыязджалі ў бальніцу немцы, плёткамі і дубінкамі падымалі з ложкаў хворых, заганялі іх у машыны і везлі ў Калодзішчы. І там, у зямлянках, іх забівалі. Каля трохсот чалавек хворых, бездапаможных, знішчылі насуперак усім законам, усім міжнародным правілам, насуперак элементарнаму ўяўленню аб гуманізме...

І, пэўна, сумленне яго ўжо тады было неспакойнае.

Але яшчэ не было разгрому немцаў пад Масквой. Яшчэ не асабліва даваліся ў знакі партызаны, яшчэ не бачыў ён на вуліцах горада павешаных, яшчэ не бачыў ён, як і ўсе мінчане, таго страшэннага шэсця палонных, шэсця, пасля якога вуліцы і тратуары чарнелі ад трупаў. Яшчэ ружовы туман засцілаў вочы эмігранта-манархіста, і ён лічыў — мусіць, шчыра лічыў — сябе вызваліцелем і дабрадзеем сваіх суайчыннікаў.

— Я люблю рускіх людзей, — паўтараў і паўтараў ён ледзь не кожнаму стрэчнаму. Безумоўна, з далёкім прыцэлам. — А немцаў не вельмі...

Яшчэ не ведаў ён ні прафесара Клумава, ні прафесара Анісімава. Не ведаў

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ЗМС-АЎСКІМ ЛАГЕРЫ

У маляўнічай аколіцы над возерам Нэцка ў Борках каля Аўгустова размясціўся ў гэтым годзе ў другой палове ліпеня 140-асабовы лагер Саюза сацыялістычнай моладзі Ваяводскага праўлення ў Беластоку.

Удзельнікі лагера, пераважна моладзь з беластоцкіх гарадоў, прыемна праводзіла час у сваім падрыхтоўча-адпачынковым цэнтры. Заняткі былі цікавыя. Адзначаліся тут дні культуры, спартсмена, дзяўчат і г.д. Адбываліся сустрэчы з цікавымі людзьмі, м. ін. з рэдактарам «Палітыкі», які выступіў з дакладам аб міжнародных справах, магістрам Міхасём Курашам, які расказаў аб пабыўцы Леніна ў Польшчы, варшаўскім акцёрам Войцехам Семёнам, старшынёю Найвышэйшай ізбы кантролю Зэнонам Новакам і І сакратаром КВ ПАРП у Беластоку Аркадзіушам Лашэвічам. На сустрэчы З. Новак адказаў на пытанні аб адносінах Кітая да маскоўскай нарады камуністычных партый і апошніх прапаноў Польшчы да Германскай Федэратыўнай Рэспублікі. Тав. Лашэвіч адказваў на пытанні, якія адносіліся да перспектыў сельскагаспадарчага і культурнага развіцця Беласточчыны.

Заняткі ў лагеры закончыліся балем «галганяжы» і ўручэннем сувеніраў найактыўнейшым удзельнікам лагера. Варта дадаць, што амаль кожны ўдзельнік лагера працаваў па некалькі гадзін пры пабудове новага цэнтра адпачынку.

**Янка Цялушэцкі**
**Аўгустоўскі павет**

## КРЫВЕЦКАЯ КРАМА

Некалькі год таму назад у вёсцы Крывец была пабудавана вялікая крама, у якой цяпер можна купіць гаспадарчыя і прамысловыя артыкулы. З гэтай крамы карыстаюць не толькі жыхары крывецкай вёскі, але і жыхары многіх суседніх вёсак. У крывецкай краме няма ніякіх недахопаў. Там амаль кожны дзень можна купіць свежы хлеб. Сюды вельмі часта прывозяць розныя тавары. Не бракуе таксама піва і ліманаду, пераважна ў сенакосы, калі каля крамы можна было ўбачыць многа мужчын з бутэлькамі ў руках. Усё гэта залежыць ад кіраўніка крамы Мікалая Якімюка, які стараецца, каб заспакоіць патрабаванні людзей, каб людзі маглі набываць розныя рэчы ў сваёй краме, а не ў суседніх, а таксама стараецца, каб крывецкая крама была самай лепшай у павеце.

Жадаем яму далейшай карыснай працы.

**Вера Ахрымюк**
**Падбаравіска**

## У ГАЙНАЎЦЫ

У Гайнаўцы будуецца зараз спажывецка-раздзельчы магазін і пякарня, якая на працягу сутак будзе даваць 6 тон хлеба. У будучыні плануецца будова пякарні ў раёне Мілеціум, гандлёвы спажывецкі павільён пры Бельскай вуліцы і спулдзельчы дом гандлёвы на рагу вуліц 1-га Мая і Варынскага.

**Ю. Козак**
**Гайнаўка**




**Дарагое Сэрцайка!**

З Пецем пазнаёмілася я шэсць месяцаў таму назад. Ён мне вельмі спадабаўся. Быў у нашай вёсцы з калегамі. У нас была забава. Мы танцавалі, а потым я папрасіла Пецю зайсці да мяне дахаты на вячэру (ён нікога ў нашай вёсцы знаёмага не мае). Дома аказалася, што мае бацькі і бацькі Пеці добра знаёмыя, нават часта бывалі ў гасцях адны ў другіх, толькі мы з Пецем не зналіся. Я яму таксама вельмі спадабалася (так ён потым гаварыў). На нейкі час Пеця выехаў са свае вёскі і пісаў да мяне вельмі прыгожыя, мілыя пісьмы. Мы нядаўна ўгаварыліся пісьмова, што сустрэнемся. Пеця не прыехаў, а я так моцна яго чакала. Прыслаў якуюсьці жанчыну (яна па сваёй справе прыйшла ў нашую вёску), якая прыйшла да мяне і сказала, што ён перапрашаў мяне, ён не можа прыехаць, потым выясніць. І ўсё. Мне гэта вельмі не спадабалася, і я вырашыла адпісаць яму і выслаць усе яго лісты і здымкі. Толькі мая сяброўка, Валя, не раіла гэтага рабіць, пакуль выясніцца справа. Зрэшты, яна і параіла напісаць да цябе. Хто з нас мае рацыю? Мне здаецца, што калі ён не прыехаў, дык вядома, што ён мяне не кахае, бо няма важнейшай справы, калі б Пеця па-сапраўднаму мяне кахаў. Што рабіць, ці паслухаць Валю, ці зрабіць так, як я вырашыла.

**Насця з Бельшчыны**

Насця! Напэўна рацыю мае Валя. Ты не павінна так паступаць, як задумала. Гэта і брыдка і крыўдна не толькі Пецю, але і табе, бо ты ж яго кахаеш. Пачакай, ён або напіша, або сам прыедзе. Твой неразумны ўчынак можа быць прычынай вашага расстання, а вы ж пакахалі адно другога. А гэта вельмі важнае, і ў імя таго ты павінна паступіць так, як раіць табе Валя.

**Сэрцайка**

<u>У Бельску Падляшскім</u>

## НА ЎРАЧЫСТАЙ АКАДЭМІІ



У Бельску на ўрачыстай акадэміі, прысвечанай 25-ай гадавіне Народнай улады, заслужаным людзям Бельшчыны былі ўручаны высокія дзяржаўныя адзначэнні. Між іншым Сярэбраны Крыж Заслугі атрымаў Мікола Гайдук — дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску.

*



Ва ўрачыстасці, прысвечанай 25-ай гадавіне Народнай Польшчы ў Бельску Падляшскім, бралі ўдзел прадстаўнікі з Карэліч Гродзенскай вобласці. Савецкія госці пазнаёміліся з Бельскам, наведалі Белавежу і ПГР у Каменным Двары, а напярэдадні свята Адраджэння злажылі кветкі на магілках савецкіх салдат, якія загінулі ў баях за Бельшчыну.

*

У Бельску перад 22 ліпеня аддана ў карыстанне так званая «мушля». Будавалі яе прадпрыемствы горада. Знаходзіцца яна на Плянтах. Цяпер адбываюцца там патанцоўкі.

**В. Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

## 50-ГОДДЗЕ ПАЖАРНАЙ КАМАНДЫ




**Уручэнне сцяга для пажарнікаў.**

У гэтым годзе добраахвотніцкая пажарная каманда ў Бранску святкуе 50-годдзе свайго існавання. На гэты залаты юбілей грамадства горада ўручыла ёй сцяг і памятную табліцу. Уручэнне сцяга адбылося 22 ліпеня. З гэтай нагоды старшыня прэзідыума ПНР у Бельску Леон Пэрэк уручыў заслужаным пажарнікам высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

**З. П.**
**Бранск**

## ЧЫТАЮЦЬ «НІВУ»

Жыхары вёскі Крыніца (Гайнаўскі павет) чытаюць вельмі многа газет і журналаў. Найлепшым госцем людзей з'яўляецца газета «Ніва». Выпісвае яе тут амаль кожны гаспадар. Людзі кажуць, што «Ніва» знаёміць іх з новымі людзьмі. Дзякуючы «Ніве» больш шануюць і любяць беларускую мову.

Я таксама думаю, што «Ніва» — гэта добры прыяцель беларускага чалавека, яна знаёміць усіх аб розных новых справах нашай Беласточчыны.

**Люба Ярашэвіч**
**в. Крыніца**

---

тых рускіх інтэлігентаў — а для яго гэтыя словы мелі свой асаблівы, «дарэвалюцыйны» сэнс, — якія былі, і ён адчуваў гэта, бачыў па іх тварах, па вачах, былі і засталіся савецкімі, «бальшавіцкімі». Ён яшчэ не сустракаў у СД Вікторыю Рубец — збітую, ледзь жывую, некалі такую прыгожую жанчыну (колькі разоў сам любаваўся яе зграбнай постаццю, чорнымі шаўкавістымі косамі) — і не задаваў сабе яшчэ пытання: у імя чаго гэтая жанчына так стойка, так мужна трымаецца на допытах, пераносіць нечалавечыя пакуты, аддае сваё жыццё?

— Я выкараню вашы бальшавіцкія парадкі! — яшчэ крычаў ён з самай дробязнай прычыны, калі стомленая і галодная санітарка не так даскапала сатрэ пыл або не павітаецца з ім так паспешліва, як гэтага яму хацелася.

А дзесьці далёка-далёка, пэўна, яшчэ ў падсвядомасці, наспявала ўжо — не магло гэтага быць! — пытанне: якія ж былі яны, тыя «бальшавіцкія парадкі?» Чаму іх так заўзята абараняюць і там, на фронце, і тут, у яго на вачах, абараняюць самыя розныя і па выхаванні, і па ўзросце, і па адукацыі людзі? Чаму не шкадуюць жыцця дзеля іх? Прафесар і санітарка... Бальнічны вартаўнік і медыцынская сястра...

Не, яны не прыходзілі ўсе вось так, разам, гэтыя пытанні, гэтыя «чаму і навошта». І калі быў працэс прасвятлення — вельмі нязначны і няўлоўны нават для яго самога — то ішоў ён паступова, кропля за кропляй. І ў душы «палітычнага блытаніка», як называла яго Белікава («Трэба ж дасюль захаваць такія акасцянелыя ідэалы!» — падсмейвалася яна над ім за вочы), у душы зацятага рускага манархіста, які начапіў на штрыфель пінжака значок са свастыкай, нібы пад глыбай ільду, утварылася нешта накшталт пратала́ны.

Быў і разлік: «А што, калі немцы прайграюць вайну?».

Была і прыгожая поза.

Ён выхапіў Ганну Навіцкую з рук афіцэра СД, абараніў яе, калі раненага падпольшчыка «укралі» з бальніцы.

«Мой персанал не вінаваты».

«Мой» персанал. «Мая» бальніца. Гэта таксама было не апошнім матывам у паводзінах Зубарава. Ён сапраўды не спяшаўся даносіць пра ўсё, што робіцца ў «яго» бальніцы, да вушэй гестапа.

Іншая справа, калі б збылася мара былога царскага афіцэра і вярнулася старая Расія. О, тады ён служыў бы верай і праўдай. А так... Не вельмі разумны чалавек, паводле сведчанняў яго ж прыяцеляў, неблагі спецыяліст — «палітычны блытанік» заставаўся ў вачах усіх напалавіну ворагам, на чвэрць дабрадзеем. Астатняя чвэрць магла пахіснуцца ў любы з двух бакоў.

Гледзячы па абставінах...

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нарва**

„Świat grozy" (polski), 20—24.

**Чыжы**

„Poznańskie słowiki" (polski), 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wilcze echa" (polski), 20—24.

**Орля**

„Na Rusi" (radz.), 20—24.

**Райск**

„Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Panie inspektorze" (jugosł.), „Maskarada szpiegów" (angl.), 19—22.

**Міхалова**

„Nieprzyjaciel u progu" (radziecki), 19—20. „20 godzin" (węg.), 21—22. „Taki duży chłopak". (radz.), 23—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Wehikuł czasu" (USA), 19—20. „Walizka z milionami" (franc.), 21—22. „Rzeczypospolita babska" (polski), 23—24.

**Шудзялава**

„Rozwód z miłości" (węgierski), 20—24.

**Янаў**

„Molo" (polski), 20—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Fatalny list" (angl.), 19—20. „Awantura o Basię" (polski), 21—22. „Kanał" (polski), 23—24.

**Мельнік**

„Rzeczypospolita babska" (polski), 19—20. „Zakochana wiedźma" (włoski), 21—22. „Godzina nadziei" (polski), 23—24.

**Мілейчыцы**

„Jo-jo" (franc.), 19—20. „Tylko jedno życie" (radz.), 21—22. „Dzika Elżbieta" (czeski), 23—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Trzydzieści trzy" (radz.), 23—24.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

